тры
кветкі
позняй
канюшыны

***

Рамонка белага ўскалых
няхай наш лёс навек асвеціць!
Як здорава, што мы ўдваіх
знайшлі сябе на гэтым свеце!

***

ТВАЁ ІМЯ

Нясмела на світанні  першы промень
у ліст мядзяны ценькнуў вастрыём,
і мне пачулася ў чароўным тонкім звоне –
імя тваё.

Шчыруе ранак, зухаваты, босы,
за песняй песню разам з салаўём
і сыпле ў травы звонкія і росы –
імя тваё.

Спакой павольнаю хадою крочыць
у сон прыцішаны бярозавых гаёў…
І ў гэтай водарнай, здаровай ночы –
імя тваё.

Нектар п‘янкі́ струменіцца у келіх
за кропелькаю кропля – да краёў!
Я п‘ю, шчаслівы, разам з лёгкім хмелем –
імя тваё.

За словамі прызнання, за радкамі
той песні, што з табою мы пяём;
у маім быцці, і ў небыцці таксама –
імя тваё.

## ТАБЕ

За далёкімі шляхамі, за дарогамі,
за чаканнем, светлым сумам і трывогамі
будзеш для мяне заўжды жаданая
ты – маё жыццё,
мая каханая.

## ЛЕТА

Мякка сцеле луг шырокі
нам у ногі травы, кветкі…
Рэчка – раптам!
                                        Мы і лодка.
У вачах тваіх аблокі
расцвілі святлом прыветным.

Хвалі рэчкі з берагамі
перашэптваюцца ціха.
А над лодкаю, над намі
белым ветразем кругамі
ў вышыні плыве бусліха.

ВЯСНОВАЕ

Нібы старонкі добрай кнігі
гартаю дні сакавіка.
Тут завірухі і адлігі,
і апантанасць жаўрука.

Душа тут рвецца паланянкай
і прагна п'е кахання хмель.
Тут пад руку сваю Вяснянку
вядзе лясною сцежкай Лель.

О пачуццё! Імкліва, плынна
кіруй мяне да тых высноў,
дзе паміраю штохвілінна
і нараджаюся ізноў!

## ГАЛАСЫ ЗАКАХАНЫХ

Вечаровай часінай, бывала,
ты дахаты ідзеш памалу
і пачуеш неспадзявана:
ціхім шэптам гучаць ля паркана
галасы закаханых.

Сам сабе ўсміхнешся задумна,
не то радасна, не то сумна,
хоць звіняць так замілавана
і даюцца не для абраных
галасы закаханых –

усё ж зайздросна парой бывае,
быццам нечага не хапае.
Хай адкрыюць той свет непазнаны,
дзе шляхі нашы скрыжаваны,
галасы закаханых.

Хай уселяць у сэрца бомы,
для душы хай сыграюць знаёмы
той напеў, што з кахання сатканы,
што з расінак іскрыстых сабраны,–
галасы закаханых.

Я хачу, я так моцна жадаю:
няхай кожны з вас пакахае
і парою, такой палымянай,
загавораць усхвалявана
галасы закаханых.

Сёння я сярод вас як роўны
ў свет кахання іду чароўны…
Дык няхай жа неўтаймавана
з веку ў век гучаць несціхана
галасы закаханых!

*****

## СОНЕЧНАЕ

Стаіш саломінкаю,
дзічкай-яблынькай.
Калінай ломкаю
мяне прывабіла.

Не вусны: спелыя –
хоць пі! – чарэшніны.
Уся анямелая,
мая ты грэшніца.

Грудзей акрайчыкам
святіўся месячык.
…Салоўка ранічкай
пачуў рып веснічак.

## УСПАМІН

Дожджык летні
след змывае твой
са сцяжынкі
пыльнай палявой...
Ты прыйшла –
і пайшла...
Усё, як сон.
Толькі дождж
ды жытнёвы
чароўны звон...
Толькі постаць
ды голас твой...
Толькі вочы
гарачь тугой.
Твае рукі
ў маіх руках,
Тваіх вуснаў
гаркавы пах...
Рукі... вочы...
Вусны твае...
Як мне зараз цябе
не стае.

Змыў сляды твае дождж,
як джын,
ды не змыў пра цябе
успамін.

*****

Раскалолася ціша – тах!! –
толькі рэхам ноч адгукнулася.
Трапятнулася ты, з ціхім – ах!
да мяне сама прыхінулася.

Шумна хмары лілі свой запас,
наваколле грымела, гайдалася.
Я ўсім сэрцам жадаў, каб для нас
навальніца тады не канчалася.

*****

Абняліся бярозка з дубам,
Прытуліліся і стаяць.
Пэўна, шэпча бярозка:
                              – Любы…
Мабыць, чуе ў адказ:
                              – Мая…

***

## СВІЦЯЗЬ

Мне Свіцязь начамі сніцца.
Мне доўга начамі не спіцца.
З табою хачу сустрэцца,
Ці гэта толькі здаецца.
Мне Свіцязь сніцца начамі:
Дзяўчына ідзе з ключамі,
Каб адамкнуць вядзерца
З вадою, што лечыць сэрца;
Рамонкам, што на узмежку,
Каб запаліць усмешку;
Каб ранкам, расістым, золкім,
Расквеціць вочы вясёлкай;
Каб, прычакаўшы вечар,
Прызначыць з табой сустрэчу.
Мне Свіцязь начамі сніцца…

*****

Шэрым ценем насунуўся вечар
і наблізіў нашу сустрэчу.
І мы зноўку, як тыя здані,
дзесьці будзем хадзіць да рання,
і за вёскай, на лузе росным,
зноў сустрэнем усходу россып.

*****

Вясна жыла ў травінцы кожнай
і ў кожным дыхала лістку,
і мы, забыўшы асцярожнасць,
пайшлі ў вясну рука ў руку.

Глядзіць прытоена-трывожна
чаромха юная ў цяжку,
як мы, забыўшы асцярожнасць,
ішлі ў вясну рука ў руку.

*****

Люляла ружа кропельку расы,
пялёсткамі пяшчотна затуляла,
ды сонца ціха іх пацалавала,
і знікла ўраз іскрыначка красы.

Тваю далонь мая рука люляла,
свавольнік-вецер блытаў валасы,
гучалі згодна сэрцаў галасы,
а ружа палымнела і маўчала.

## КАХАНАЙ

Калі ласка, прыйдзі ў мой сон,
у мае каляровыя мроі:
пад таемную музыку сэрцаў
мы пакружымся ў вальсе з табою,–
калі ласка, прыйдзі ў мой сон.

Калі ласка, прыйдзі ў мой сон
ціхай добрай начной парою,
каб сагрэць мне збалелае сэрца
і застацца навекі са мною,–
калі ласка, прыйдзі ў мой сон.

НЕЗВАРОТНАЕ

Так раскінуліся жыты!
Быццам мара!
Няма канца-краю!
На сцяжынцы адной я і ты…
У вачах тваіх дзень дагарае.

Толькі слова скажы мне.
Пакінь
хоць маленькую кроплю надзеі!
Нестрыманая плынь ракі…
Як прысуд – гады праляцелі.

Як раскінуліся жыты…
Свет хмялее ад дрогкага пылу.
Толькі ты…
Адкажы:
дзе ты?
Сонца знікла за небасхілам.

*****

Размыты цені прыдарожных дрэў,
І павуціннем у сутонні – голле.
Бывай той дзень, якога не сустрэў,
Як не спазнаў ні радасці, ні болю.

Размыты цені...
І тых дрэў няма.
І лёг на сэрцы успамінаў прысак.
Гарыць той дзень – не патушыць.
Дарма...
На вуснах стыне гаркаваты прысмак.

## БОЛЬ

Не шукаў я цябе для пацех...
Але сталася мара марнаю.
Мне на голаў, як попел, снег
неба сыпала хмарнае.

Дзе ты, мара мая?
                                        Віруй!
У завеі кружыся дзікай!
Нібы чырвань ружы, згару
на марозе вялікім.

Пачарнеюць пялёсткі ўраз,
адгукнуцца ў душы маёй болем.
Як шкада, што сустрчэы для нас
лёс не сплануе болей.

Ружу, вецер, маю вярні!
Адагрэю ля сэрца мару я.
...Попел шэры, як снег, з вышыні
неба сыпала хмарнае.

*****

Які ўжо час стаю на скрыжаванні,
ўглядаюся трывожна ў цемень ночы…
О, хто сказаў, што лёгкі час растання,
калі зусім другое кажуць вочы.

## ДОТЫК

Што асаблівага ў тым,
што зоркі
Сёння не свецяць зусім?
Што асаблівага ў тым,
што горка
мне, калі ты з другім?
Што асаблівага?
Проста
чорныя хмары ўгары.
Проста
няма той зоркі,
якая для нас гарыць.

## М А Л І Т В А
(акраверш)

***К***ахaная мая, даруй маўчанне мне.

***А***ддалены адчайнасцю растання,

***Х***варэю ўсё табой, ты ў самым цяжкім сне

***А***даграеш мяне цяплом свайго дыхання.

***Н***атольваю душу ўзаемнасці святлом,

***А***дно каб для цябе яшчэ хоць раз успыхнуць,

***Я***к ні спрабуе лёс мяне на злом.

***М***аё каханне! Споведны уздых мой!

***А***дчуй маю малітву з нема`ты:

***Я***шчэ жыву, бо ёсць на свеце ты.

***

Снег на вуліцы і ў душы
замятае сцяжынкі ўсе…
Ты самоту-адчай заглушы,
хай надзея ўзрасце пакрысе.

Хай забудзецца прышлае зло,
хай сплыве, як расталы снег.
А пакуль няхай шчасця святло
грэе нас на яве – не ў сне.

ЗОРКА

Мабыць, сталася нешта з небам,
што ў хвіліны мае агорклыя
мне сыпнула не маннай, не хлебам,
а зоркамі.
Звар‘яцелая зорка нейкая
да маіх босых ног упала.
Мне здаецца, была яна век мая,
і ўжо век, як яе не стала.
Але вось яна – прыгажуня,
хутка лёткая, гнутка целая...
Як святлом тваім даражу я,
звар‘яцелая зорка мая,
звар‘яцелы я!
Сто разоў буду небу дзякаваць,
што не манны дало мне, не хлеба...
Ты прымаеш мяне.
Усякага...
Ты такая мне толькі і трэба!

***

На мяжы растання і сустрэчы –
наш прыпынак і магчымасць выйсці
з дня ды ў ноч, а з раніцы – у вечар…
Але выхад не дае нам выйсця.

Міг сустрэчы выспеліць растанне.
Але зноў мяжу яднаюць вочы.
Дзякуй небу: нашаму каханню
мала летам дня, зімою – ночы!

## ЛІСТ

Зайздрошчу я лістам сваім,
якія шлю табе насустрач,–
яны спаткаюцца з табой
хутчэй, чым я.
А слоў баюся – гэта таямніца:
што прачытаеш ты, акром таго,
што сэрцам я
хацеў сказаць?
А літарынку кожную аблашчу,
бо, як цяпельца, кожная асобна
тваім вачам
аддасць цяпло
вачэй маіх.

ШЧАСЦЕ

За адно, за вечнае імгненне
я не пашкадую і жыцця:
у калысцы сонцавы праменні
ловіць ручаняткамі дзіця.

Мне здаецца, гэта песня шчасця,
сонечнага ласкавасць цяпла.
І ніхто не мае права ўкрасці
ўсмешкі, што на вуснах расцвіла.

*****

Званок здалёку.
Голас, мне здаецца,
Прытомлены адлегласцю,
Прарастае радасцю,
Як пры сустрэчы са знаёмым,
І кволы, наструнены
Лісточак надзеі
Чакае праз тысячы кіламетраў
Жывой вады –
Твайго голасу.

Не забывай
Палівац
Кветкі.
Званок здалёку.

***

Добры дзень!
Я сустрэчы гэтай чакаў.
Так чакаў…
Не адказваеш ты.
Колькі я на свой лёс наракаў!
Вынес колькі з-за дабраты…

Я заўсёды дабра хацеў,
недарэчнасць даказваў трывог.
Толькі ўсё ж я чагосьці не меў,
што цябе затрымаць не змог.

*****

Усмешка ледзь кранула вусны,
бы заблудзілася няўзнак.
Ах, як жадана, як спакусна
прыняць душою Ваша: – Так…

*****

– Дзень добры Вам! –
мае сказалі вочы…
Ды ў ледзь прыкметным
руху галавы
душою неспакойнай я ўлавіў,
што нерашучасць дня
і смеласць ночы
мне даравалі Вы.

*****

Зямля пад сонцам ажыла,
і кволы парастак нясмела
туды прабіўся, дзе была
вясна ў агні ружова-белым…
Быў свежы вецер…
Пах травы…
І Вы…

## тры кветкі
## позняй канюшыны

Расы світальным халадком
гарэлі-грэліся крадком
тры кветкі позняй канюшыны
ў далонях любае жанчыны.

Ды не ставала ім цяпла,
далоням гэтым неспакойным,
і кветкі ваза прыняла,
схаваўшыся ў другім пакоі.

Твая вялікасць, мудры час,
Цябе заўсёды было мала…
Сагрэла чырвань кветак нас,
Яна ж нас міла развітала.

А наўздагон – твой неспадзеў,
Што выпусціла з рук-далоняў:
– А ў канюшыне жук сядзеў,
Такі ж упарты, як ты сёння.

Расы світальным халадком
тры кветкі позняй канюшыны
ў руках каханае жанчыны
гарэлі-грэліся крадком.

Вам

Сваю

Песню

Нясу

ШЧЫРАЕ

Родны край!  У любую часіну
верыў я ў тваю дабрыню.
Ты таксама вер мне, як сыну,–
я не здраджу і не зманю.

Я ніколі не здраджу крыніцам,
небу роднаму і лясам,
ні заранкам, ні навальніцам
я не здраджу, бо гэта – я сам.

Я ўвабраў, назаўжды запомніў
хараство бяроз у гаях,
дзе страчала першыя промні
на світанні песня мая.

Росных сцежак, як закаханы,
быў заўсёды шчаслівым рабом,
і, нібы малако са збана,
піў туман з асалодай нагбом.

Я клянуся матчынай песняй,
шчасцем першага пачуцця,
родны край, з абуджэння весняга
быць тваім да скону жыцця.

## ПАКЛОН

Я ўзрос у краях, дзе месяц,
як акраец духмянага хлеба,
людзі з цеста хмельнага месяць
перад тым, як павесіць на неба.

Я ўзрос у краях, дзе вочы
васільковаю сінню абліты,
дзе гарачы пагляд дзявочы
з сонца вытканы і з блакіту.

Я ўзрос у краях сунічных,
у краях, дзе шчасця багата,
дзе замест малака крынічнай
патрабуюць вады немаўляты.

Я ўзрос у краях,
якія,
бы загадкавы сказ былінны,
без якога,
як без крыві,
я
не змагу пражыць
ні хвіліны.

## ВАНДРОЎНАЕ

Я сцяжынкай кожнаю
роднай Беларусі
жніўвеньскімі пожнямі
басанож прайдуся,

дакрануся вуснамі
да зары пунцовае,
захмялею з густага
паху верасовага

і пад тымі ліўнямі,
што сплываюць стомай,
смагу наталю маю,
як прыйду дадому.

*****

Іду туды, дзе роўнядзь поля белага,
як палатна адбелены сувой,–
там цяжар сунімае набалелага
нікім яшчэ не кранугы спакой.

Іду туды, дзе ціхі гай падковаю,
дзе цішыня асмужаных лагчын,–
там думкі мітуслівыя ўладкоўвае
барвовасць урачыстая рабін.

Іду туды, яліны дзе самотныя,
дзе сонца з-за галін, як з-пад рукі,–
там словы самі, шчырыя, пяшчотныя,
кладуцца ў вершаваныя радкі.

*****

Там, на ўсходзе, зары дзе ўсплёскі,
дзе ў чаканні стаіўся дзень,
з цішынёй мая родная вёска
задуменна размову вядзе.

*****

Я прыехаў дахаты ноччу.
Вёска спіць, прыкарнуўшы ад стомы,
і не свецяць мне вокны-вочы
тым святлом запрашальна-знаёмым.

Застывае ў начным маўчанні
засяроджана наваколле.
І хістаецца белай зданню
месяц сонны ў бярозавым голлі.

Доўга крочу я па завулку,
цемень крокі настылыя глушыць.
Свайго сэрца удары гулкія
сцішу, каб твайго сну не парушыць.

*****

Вёска родная, чым страчаеш
ты свайго жыхара маладога?
Лісця золатам высцілаеш –
бачу – ты для яго дарогу.

Шчырасць сонечнага ўзыходу,
жураўлёў калодзежных перабранку,
дорыш свежасць мне і прахалоду
вераснёвага ранку.

Мой далёкі вясковы ранак...
Сонца жмурыцца зухавата...
Зараз выйдзе матуля на ганак
і ласкава запросіць у хату.

## МАЁ СУЗОР‘Е

Глянь на неба!
Ну як не заглядзецца
на сузор‘е
Вялікай Мядзведзіцы,
што гарыць
над дарогай прасёлкавай
таямнічай
нязгаснай вясёлкаю;
як агні яе зорак
далёкія
запалілі ўсё неба
навокала.
Бач! Глядзяць на нас
зоркі дзіўныя
хітравата і неяк…
здзіўлена.
Мо, таму, што сузор‘ем
Мядзведзіцы
на Зямлі
мая вёска
свеціцца.

## ВОСЕНЬ

Лагодны ветрык мякка лашчыць лісце
на ціхіх клёнах нашага двара,
а тыя полымем запознена ўзяліся
і так ахвярна, гордыя, гараць.

Сарваўся ліст і пакружыўся долу,
Павольна, сцішана…
                                        Адзін…
                                                        Другі…
У сонме маіх думак невясёлых
яны –
              агонь халодны нечае тугі.

## САСНА

Збоч дарогі, за жыта сцяною,
пачынаецца лес малады
першым дрэвам, старою сасною,
што глядзіць у жыццё праз гады.

Ты пагладзь яе ствол шурпаты,
прыхініся шчакой да яго
і адчуеш: струменіць заўзята
кроў-жывіца гадам наўздагон.

Ты адчуеш не целам – сэрцам,
як прытоена раны смыляць:
пад карою, прасмолены, б’ецца
цяжар смерці, што часам не зняць.

Запытайся ў сасны пра раны,
і раскажа табе яна,
колькі вогненных, страшных заранак
запаліла над ёю вайна.

І пра дзень незабыўны раскажа,
той, як лесу не стала больш..
Ты ўбачыш, як дрэвы плачуць,
перанесці не могучы боль.

...Прасцірае сасна сваё голле.
Яна тут – вартавы назаўжды.
Ап’яняе жыццём наваколле,
вырастае лес малады.

## ГРУША

– Не будзем секчы грушы,
хай расце…
Нічога, што старая…
Але ж кветам
вясною доўжыць ясны дзень…
Па садзе
мама
светлая
ідзе.
Глядзіць на сад свой.
Шчыраю рукою
кранае дрэўцы,
меншыя і большыя.
І ўсякі раз да грушы падыходзіць –
апавядае бацьку,
як растуць
сыны і ўнукі.

*****

Слязінка горкая,
слязінка чыстая,
бы роска, высахла…
Як ціха ў хаце…
і толькі наміткаю
празрыстаю
звільжэлі вочы:
спявае маці.
Пацíху словы,
як за кудзеляю
льняную нітку
снуе ў руках,
ідуць ад сэрца
жывой надзеяй:
ёсць нараджэнне!
Будзе – працяг!

## ПОЛЕ

Чаканне – хмарай
яму здалося,
маланкай – мара,
з якой было ўсё.
Але  – намарна:
не пралілося
ані дажджынкі
над
        хлебным
                        полем.
.....................
А неба… неба…
Яно пякло ўсё.

*****

Вецер выпусціў, нібы са жмені,
падхапіў зноў і злосна кінуў
на халодную шыбіну мокрую
лісцяў некалькі.

На зямлю ўсё апала. Толькі
ліст адзіны прыстаў кляновы,
і адтаяў, здаецца, ад чырвані
холад шыбіны.

*****

Задыхаецца зямля ад смагі –
кожны мускул выдахся, аслаб.
О, з якой неймавернай прагай
зараз спорны дождж яна піла б.

Ды спякота – шчэ хапае сілы –
вынішчае на шляху жыццё.
Сухавеі так яшчэ не вылі
(мабыць, перадсмертнае выццё).

А ў вышынях стоўпіліся хмары.
Цяжару нябёс не сунімай!
Дождж лінуў на смяглыя папары,
Задыміўся пылам небакрай.

Расхіні, зямля, шчаслівa грудзі!
Сухавей не пагражае больш.
...Льецца несціхана ў ціхім гудзе
над маёй Айчынай шчыры дождж.

ГОРАД

Дождж сціх.
Прашапацелі здружана,
цяплом упалі на лісцё і глебу
празрыста-зіхаткія валаконцы.

А на асфальце дажджавая лужына –
сінеча перакуленага неба,
здзіўленне свежавымытага сонца.

## НАВАЛЬНІЦА

Мабыць, сёння перад вячэрай
моцна Зеўса аблаяла Гера…
Не сцярпеў громавержац абразы,
чыгунком аб падлогу ударыў,
кінуў поглядам – і адразу
гром з маланкай абрынулі хмары.
Мабыць, бойка была між багамі:
тупацелі абое нагамі.
Выганяў, можа, жонку з кватэры
ці парваў дарагую спадніцу,
бо слязьмі залівалася Гера…
Не было йшчэ такой навальніцы.

## НА ЛАНІ
(дыпціх)

### Перад світаннем

Бель туману дыміцца.
                                        Ціша.
Урачыстасць якая!..
                                    Світанне
на арэлях нябачных калыша
задуменныя воды Лані.

Палец к вуснам!
                              Замры!
                                            Запомні!
Зараз момант таемны настане:
баязліва першыя промні
акунуцца ў празрыстаць Лані.

### Рыбак

Стаіўшыся на беразе ракі,
прыплюшчыўшы з хітрынкай свае вочы,
з-пад шапкі дзед, нібыта з-пад рукі,
за паплаўкамі неадрыўна сочыць.

Вось клюнула!
                          Падсёк.
                                        Сарвецца…
                                                            Ах!..
Дзядуля заўсміхаўся па-хлапечы,
падцяг вудзільна, і ужо ў руках
часцінка рэчкі серабром трапеча.

НЯСКОНЧАНАЯ ПЕСНЯ

Над далёкім і над блізкім борам
ценем лёгкім ледзь дыміць туман
і загадка таямнічых зорак
ападае ў верасы палян.

Спяць яшчэ, маўчаць яшчэ абшары,
толькі збіў расу, прымяў траву –
на паляну лось, нібыта мара,
уладарна вынес галаву.

Цішыня: ні шолаху, ні зыку.
Лось рагамі кратае сасну
і раптоўна пераможным рыкам
абуджае бор стары ад сну.

Стрэл рвануў нясконачаную песню,
чырванню лінуў на верасы…
За барамі, за туманам дзесьці
знікла сонца ў кропельках расы.

## САКАВІЦКІ ДОЖДЖ

Сакавік як ніколі рана
(не бывала такога даўно)
з-за хмурынак, нібы з-за фіранак,
сыпануў дажджом на акно.

Б‘юць настойліва, б‘юць зацята,
барабаняць дажджынкі ў шкло.
Кроплі буйныя, як зярняты,
веснавое сеюць цяпло.

*****

Недзе за гаем бярозавым,
там, лугавы дзе абшар,
сонца расою марознаю
мые усмешлівы твар.

Вось ужо вочы агністыя
скінулі чырвань, як цень…
Сонца, да звонкага чыстае,
кажа зямлі:
– Добры дзень!

ВЕНІКІ

На базарнай плошчы,
ў старане ад крыку,
самакрутку смаліць,
жару наддае
ў кажушку вясковым,
ростам невялікі,
венікі няспешна
дзядзька прадае.

Падыходжу моўчкі…
Пахне так бярозай,
гай нібыта побач
дыхае з табой.
І хоць быў не п’яны,
хоць і быў цвярозы,
а стаю ўжо з лёгкай
хмельнай галавой.

Пах палеткаў родных
і лясных палянак –
як усё у сэрцы
ясна ажыло:
венікам бярозавым
выганяе ранак,
коціць залацістае
сонца над сялом.

Басанож імчу я
лугам без дарогі
па бурштынна-срэбнай
ранішняй расе,
што агнём нябачным
апякае ногі,
тысячамі сонейкаў
грэе пакрысе.

Прыгадаў дзяцінства,
светлае былое…
Успамін, а колькі
ён жыцця дае.
І стаю я лёгкай

хмельнай галавою:
Венікі няспешна
дзядзька прадае.

*****

А вы чулі, аб чым
шэпча дождж уначы
у лістоце таполяў і клёнаў?
Што гаворыць вам гром
і маланка агнём
што выпісвае ў хмарах шалёна?

Пра што вецер гудзе,
Пра што, нібы ў бядзе,
так хаўтурна галосіць хвілінай?..

...Недзе бацька мой зноў
свежай беллю бінтоў
перавязвае раны ўспамінаў.

## НАДЗЕЯ

Завірыла завіруха захмялелая –
не прабіцца, не пралезці, не прайсці.
А навокала, як бездань чорна-белая,–
страшна згінуць, а дарогі не знайсці.

Не прысядзеш, не заснеш і не забудзешся,
крочыш крок за крокам, а куды?
Ашалелага прастору не дабудзішся,
замятае вецер рэдкія сляды.

Безвыходнасць, роспач да адчайнага…
А надзея ўсё-такі жыла.
Крок за крокам…
                                        Зоркай незвычайнаю
бліснулі агеньчыкі сяла.

*****

Жыццёвыя зажынкі і дажынкі…
Адвечная мая і наша песня…
Прыходзіць час, і даўняю сцяжынкай
вяртаемся мы зноў да родных весніц.

*****

Чаромхавай парою па вясне
у сны прыводжу восень я самую,
а сон-трава прыгадваецца мне,
калі дажджы асеннія сумуюць.

Зімою вабяць росныя лугі
і  васількі, і жаўранкі над жытам,
а летам сняцца сінія снягі,
халодны лёд, святлом начным заліты.

Ды ўсякі раз, калі жыцця вясло
выкідвае мой човен на каменні,
глыбінным абуджаюся цяплом,
        што родная зямля мая праменіць.

## НОЧ У ЛЕСЕ

Цёмна. Хоць выкалі вока.
Ноч. Цішыня навокал.
Здаецца, свой бег спыніла
рэчка, што ўдзень бурліла;
ледзь чутна свавольнік-вецер
лашчыць сасновае веццe;
крыкнула птушка спрасоння –
і зноўку нямое сутонне.
Страшна ў такую хвіліну:
як быццам цябе хто пакінуў.
І ты з нецярпеннем чакаеш,
што хутка ўбачыш, спаткаеш,
як сцежкай лясной, заспаны,
крочыць у пушчу ранак.

## СЁННЯ

Гаманкая
шырокая
вуліца,
і прамая –
у далячынь.
Ды абсада
спалохана туліцца
да будынкаў
і глуха маўчыць.
Ліпы,
клёны,
каштаны,
таполі…
Чэзне,
сохне
задыханы ліст.
Трэба болей
паветра ім,
волі,
трэба птушак
у іхнім галлі.
Карані наталіце.
Не згасла
каб жыццё іх…
У бляску агнёў
дня сучаснага,
вуліц сучасных
нам не выжыць
без каранёў!

## ПЕРАСЦЯРОГА

Мы спыніліся — адпачынак.
На абочыне стыне аўто.
У цяньку парасселіся чынна
і не вымавіць слова ніхто

Мы стаміліся – шлях быў далёкі.
Зараз вельмі добра маўчаць.
Але кінулася на вока,
што наўкруг нас травы крычаць.

Крык, заглушаны ліпкім пылам,
несціхана, нястрымна дрыжыць..
О, як прагнуць сцяблінкі пахілыя,
як нясцерпна жадаюць жыць.

Яны вераць – не ўсё яшчэ скончана,
і адменяць вышэйшую меру…
А пакуль што на пыльнай абочыне
плача рамонак шэры.

*****

Сябрам

Я прапісаны да вакзалаў,
і да станцый, малых і вялікіх.
Хоць праехаў ужо нямала
і стаптаў не адны чаравікі,

толькі вабяць мяне дарогі,
як радкі ненапісаных вершаў,
па якіх да часу не мог я
свайго кроку адзначыць першага.

Толькі сэрцам прагну сустрэчы
і размовы харошай з сябрамі,
каб забыцца на ноч і на вечар,
каб не помніць на дзень і на ранак.

Каб паслухаць – спяваюць жанчыны…
Песня родная, словы, як дзіва!
Каб ступіць на лясныя сцяжыны,
па якіх нашы продкі хадзілі.

Каб упасці у водарны верас
і зямлю цалаваць адзіную,
што ў любові, прызнанні і веры
прарастае ў сэрцы Радзімаю.

*****

У тым краі, з якім пупавінай
моцна звязаны з нараджэння,
не хачу быць зязюляй хвіліннай
без нашчадкаў майго пакалення.

І ніколі сюды на дзень я
ці на два не прыйду – паверце!
У мяне ёсць вырай надзейны
ад пачатку да самай смерці.

Родны край мой!
Радзіма-маці!
У паклоне нізкім хілюся
і жыццём прысягаю:
спяваць мне
песню вернасці Беларусі!

# СПАДЧЫНА

Зямлю ару і камяні крышу
нарогам вострым, бацькавым нарогам.
Кладу барозны і вяду дарогу
наперад праз няпэўнасці мяжу.

Для сну мне часу не адводзіць лёс:
баюся – каб хаця загон адолець…
Не першы я на прадзедавым полі –
а колькі незасеяных палос!..

Да слова слова, да радка радок –
узорваю старанна ліст паперы.
Трымаю сілы на жыццёвай веры,
што будзе рунь, дзе быў адвечны ток.

*****

Занесены снегам сцежкі.
Схаваўся ў сумётах сум.
А я прастую няспешна
і вам сваю песню нясу.
Яна не набрала сілы:
да часу трымае голас
ды хутка раскіне крылы
і жаўруком – над долам,
над рунню вясновай нівы
ўзнімецца небывала
і загучыць шчымліва
вечнаю мовай Купалы.

ЧАС...

Для кожнага лёсам адведзены
час для іспыту:
прыходзяць да нас у адведзіны
продкі з нябыту.

Прыходзяць, духоўна-рослыя,
бачаць наскрозь нас.
Бачаць быллём парослыя
на полі барозны.

Бачаць, караюць грымотамі...
Хавайце ўсмешкі:
чаму затаптаны ботамі
Купалавы сцежкі!?

А нівы чаму бясплодныя!?
Панішчаны пашы!
Чаму занядбана роднае,
кроўнае наша!?

Маўчыце... Не трэба радзіцца...
Як прорва – сумленне.
На шалях гісторыі спраўдзіцца
ваша падзенне.

Няпроста застацца няскораным
і быць у палоне..
Падтрымкай, надзейнай апораю
вам – продкаў далоні!

Працягваюцца адведзіны...
Не ўсё йшчэ забыта!
Для кожнага з нас адведзены
час для іспыту.

*****

Калі  здарожышся і ўпотай
не зажадаеш сцежак новых,
калі асядзе сум-самота
на скронях фарбаю жыццёвай,
калі надумаеш на потым
адкласці спраў сваіх аснову,–
табе дасць сілы для палёту
сяброў тваіх жывое слова!

*****

Схіляю галаву я перад тым,
хто валадарыць над бязладдзем гукаў,
хто правядзе вас, як дзіця, за руку
у свет, дзе толькі музыка і ты.

Сальецца ўсё ў адзіны светлы гук,
і стане сэрца і душы парывам,
і хочаш, каб ужо не паўтарылі
той свет дзівосны, вылятае што з-пад рук.

Душа ж у чалавека, як арган.
Тут не заўсёды зробіш даспадобы,
каб з мноства рысак вынікла асоба,
як не заўжды сыграеш без заган.

Сапраўдны голас цяжка заглушыць.
А што рабіць, каго спытацца, дзе ты,
калі з налёту бабінае лета
рукой ударыць па струнах душы!?

## СЛОВА Ў ДАРОГУ

Застолле застоллю розніца.
А гэта – сустрэча сяброў.
Ад чаркі ніхто не бароніцца –
хай вып‘е і будзе здароў.

Па крузе па новым пройдземся.
Па поўніцы, брат, налівай!
За чаркай у гэтай прыгодзе ўсё,
што добрае, прыгадай.

І нават калі не будзе ўжо
ні поціску рук, ні вачэй –
са сцежкі сяброўскай не зблудзіш ты,
успомніш – і пойдзеш ямчэй.

## НАСТАЎНІКУ

Ул.А.Калесніку

З надзеяй, любоўю і втраю –
былінка ў сусвеце людзей –
спакон і заўсёды верую:
ёсць ранак, то будзе і дзень.

Не кожны трымаецца вернасці –
прадажны, няверны час!
Ні веры, ні страху, што вернуцца
любоў і надзея да нас.

Спыніцца б – часу не дадзена.
Нявер‘е – хоць гвалт крычы!
Жыццёвае веры прадзіва
замацаваць бы…
Чым?!

Надзея на кон пастаўлена…
Хто да чаго дабяжыць…
Ты не дазволь, настаўнік, нам
без веры святое жыць!

*****

Трэба нам думаць многа
не пра сябе – пра другіх,
каб не вісела трывога
над шчасцем людзей дарагіх.

Трэба спакой жыццёвы
кожнай жывой істоце,
як людзям патрэбна мова,
як птушкам – крылы ў палёце.

## ПРОСЬБА

Сатчы мне ветразь, бабінае лета,
з дарог шырокіх і сцяжынак вузкіх,
шчаслівым успамінам пра якія
жыве і поўніцца мая надзея.

Сатчы мне ветразь, бабінае лета,
з сустрэч неспадзяваных і чаканых,
якія адкрыццём былі заўсёды
цяпла і чалавечай дабрыні.

Сатчы мне ветразь, бабінае лета,
з маіх памылак, горкіх і балючых,
якія навучылі маё сэрца
бачыць непадробленую праўду.

Сатчы мне ветразь, бабінае лета,
з самотнай цішыні бароў асенніх,
дзе верасы, нібы чыёсьці сэрца
разбітае, палаюць так трывожна.

Сатчы мне ветразь, бабінае лета…
Я замацую сам яго над лодкай,
Над невялічкаю маёй жыццёвай лодкай,
і ўпарта паплыву наперад.

*****

Гэтай казкі не зберагчы мне.
Думка толькі адна гняце:
Золак весніцы ці адчыніць,
Ці адбудзецца новы дзень...

Прымарудзіў,
дзе можна прыспешыць,
Не паверыў, дзе –
душу разнасцеж!
І не тое, што трэба –
першае,
І не тое з намі, што –
НАША.

## КРОПЛЯ

*Чалавеку*

Кропля вады ў далонях.
Кропля вады… Адна…
Гарача-агністыя коні
грымяць капытамі ў скронях,
а кропля вады адна.

Адна?
            Не адна,
                            а мора.
Цэлае мора ў кроплі!
Таму і смага – не гора,
таму і стома – не змора:
цэлае ж мора ў кроплі!

Цэлае мора… Міжволі
крануў языком…
                                Да дна!!
Не думаў, не верыў ніколі,
што кроплі будзе даволі,
хоць кропля была адна.

РУБІКОН

Гадзіна за гадзінай – згінуў дзень
і адышоў ціхутка на спачын…
Збялелы твар, дрыготка-сіні цень
блукае па разорынах маршчын.

А вочы, два жывыя светлякі,
імкнуць да свету, рвуцца да жыцця,
каб перайсці надзвычай трапяткі
той рубікон быцця і небыцця.

Ды падае знясілена рука,
а сэрца бой – бяссілле дактароў –
Сціхае, нібы крылы ветрака
пад аслабелым подыхам вятроў.

Жыццё і смерць…
Ніколі і нідзе
не будзе кампрамісу тут ні ў чым…
Гадзіна за гадзінай – згінуў дзень
і адышоў ціхутка на спачын.

*****

Стомлены і целам, і душою
ў гэтай мітусні людской і тлуме
прагну я хоць крышачку спакою
для маіх незразумелых думак.

Мы заблыталіся ў нудных спрэчках,
у размовах, у даведках, дагаворах...
Сэрца сціхне...
                    толькі крыкам нейчым
будзем спынены і мы, як прыгаворам.

*****

Чалавеку часам балюча,
чалавека нехта абразіў:
кінуў словы, нібы калючкі,
і памеркла сонца адразу.

Чорным цяжарам крыўды-напасці
зло прыціснула лёс чалавечы.
Ты не дай ЧАЛАВЕКУ ўпасці –
на твае абапрэцца хай плечы.

1863

Быў парог.
Быў яшчэ падсвядомы пачатак.
Ды мацнела крыло,
выраўноўваўся крок
і жыццё маладое,
як весняе свята,
светла бачылася здалёк.

Мэта – божа! – якая!
А мара!!
Даць бы сілы,
падняць на крыло!
І паплечнікі ёсць,
і… ахвяры,
і сумненні,
якіх не было.

Дум гарачых
муры не астудзяць.
Ад развагі былой –
невыразнасць мяжы.
Ён ішоў да людзей…
Што пакінулі людзі!?
Цьмяны пробліск надзеі
ды сцежак крыжы.

Калі б сам,
то адкінуў даўно асцярогу,
і сумёт забыцця
ўжо схаваў бы яе.
Ды не сам,
не сабе…
Для нашчадкаў дарогу
ён адкрыў.
І паходню
НАМ
перадае!

## ДОСВІТАК

*А.Каско*

Спавіў зямлю – не сёння і не ўчора, –
зямлю даўно запаланіў туман.
Са Шляху Млечнага самаахвярна зоры
зрываюцца…
Але святла – няма.

Заглушана, зацемрана былое,
прыціснута – не ўзняць і галавы.
Ды стаў празорца ўжо за аналоем,
вадой святою кропіць паплавы…

І з-па-над Нёмна, з-па-над Шчары коні –
Успененыя – ратнікаў нясуць.
Як спадчыну, мазольныя далоні
трымаюць дзіду, вострую касу.

Шалёны скач…
А насустрэчу:
“Хто вы!?”
Ў тумане сотні – Я,
і сотні – ТЫ!
Суровы гімн вызвоньваюць падковы,
расу-слязу збіваюць капыты.

*****

Дабро, спагада...
З імі трэба жыць.
Пра чуласць, чалавечнасць варта помніць,
каб у хвіліны, што гарчаць слязой,
свой кожны крок,
свой кожны след
выразна вызначыць маглі вы.

Чаму ж тады аднойчы для душы
на вастрыі халоднага йшчэ промня,
што здаўся мне бязлітасным лязом,
адна расінка высвеціла свет,
шматколерны, але...
маўклівы.

*****

Я сяджу ля акна нерухома,
верставыя слупы лічу…
Колькі вёрст у жыцці – невядома,
ды за кожную з іх я плачу́.

Вёрсты, вёрсты…
Колькі вас ззаду?
А наперадзе колькі яшчэ?
Стукне думка: вазьму і прысяду,
нікуды ж жыццё не ўцячэ.

Мо прысесці… ды не, не згаджуся
прыпыніцца й на пяць хвілін…
А прысяду, то застануся
на жыццёвым прыпынку адзін.

*****

*****

Гоман калёсны
пры песні дзявочай.
Еду я некуды
сам супроць ночы.
Мрояцца розныя думкі
імкліва
бляскам агнёў
на акне зіхатлівым.
Стукаюць колы
пры песні дзявочай,
думак мільёны –
зліпаюцца вочы…
Еду я некуды сам,
без нікога,
толькі ж закончыцца
недзе дарога!?
Радасць ці гора,
шчасце ці не? –
Што на прыпынку
чакае мяне?..

ПАГАС АГОНЬ

Што зрабіць, калі я невясёлы:
Несуладна нейк на душы.
Нібы хтосьці агеньчык кволы
не памоцніў, а затушыў.

І адзін я на восеньскай стыні
замярзаю – пагас агонь…
Не! Вугольчыкі йшчэ не астылі,
аднавіць, можа, ўдасца яго.

Намаганне за намаганнем…
Распаліць бы нанова мне,
аднавіць бы дзівоснае ззянне,
хай насуперак восені мкне.

Ажывіць памажы мне, вецер,
я аддам свайго сэрца святло,
я аддам яму ўсё на свеце,
толькі…
толькі б
ЦЯПЛО
ажыло!

## ПЫТАННЕ

Час, як сівы дзядок
пад тумановай накідкаю,
жыццё скруціў у клубок
суроваю ніткаю.

Ён потым скажа,
чыё
жыццёвае прадзіва.
Добра, калі –
тваё!
А калі –
украдзенае?..

РОЗДУМ

У тлуме сталічных вуліц
я думаю ўсё часцей
пра вёску, што цёпла прытуліць
мяне да сваіх грудзей.

Уцёкі… а можа, пагоня?
Куды… ад каго… за кім…
А недзе на чыстых гонях
адпачываюць вякі.

А недзе лясной палянай
паважна праходзіць лось.
І ты ў гэтым свеце нязнаным
не гаспадар, а госць.